Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 - 9 КРАСАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№14 (154)

АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

## Джынсавы шлях

Па выхадных з горада на рэчавы рынак у суседнія Маладзечна пачаў хадзіць маршрутны аўтобус мясцовага аўтапарка. Кошт такой паездкі крыху большы за звычайную - 15 тысяч. Адпраўленне ў 8. 40, ад'езд на Вілейку ў 12. 00.

Таксама адкрыты маршрут да рынку ў Жudановічах. Прычым білет можна купіць адразу ў два бакі (адпраўленне ў 7. 00, зваротны выезд ў 14. 00).

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## У свет. Са сваёй елкай

Выгадны кантракт падпісаў мясцовы лясгас з галандскай фірмай "Саціт". Па яго ўмовах з-за мяжы да лесанарыхтоўшчыкаў паступіць абсталяванне для перапрацоўкі дробнай таварнай драўніны. А разлік з галандцамі будзе весціся ўласнай прадукцыяй, накшталт загатовак для еўрападдонаў. Дарэчы, з гэтай фірмай валожынцы працуюць 3 гады.

Штомесяц за мяжу да партнёраў адпраўляюць 1-2 машыны з прадукцыяй. А ў сакавіку адправілі 4 вялікагрузы. Агульная сума апошняга дагавору - 73,5 тыс. марак.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Возера ў арэнду

Вішнеўскае возера перадалі ў арэнду. На яго прэтэндавалі дзве камерцыйныя фірмы з Мінска і рыбгас "Нарач". Перамог нарачанскі праект добраўпарадкавання вадаёма і карыстання ім.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## Погляд у вочы

- На нашым прадпрыемстве працуе без малога 50 чалавек, - гаворыць галоўны інжынер мэблевай фабрыкі **Валерый Бурко**. - На першы погляд, фабрыка нічым ад падобных ёй не адрозніваецца - вырабляем корпусную мэблю, прыхожыя, крэслы, сталы, тумбы. Усяго набярэцца каля дваццаці найменняў.

Ёсць тут і свая асаблівасць. Усе гэтыя тавары вырабляюць па індывідуальных заказах. Адсюль, відавочна, і такрэт папулярнасці смаргонскай мэблі - канкрэтнаму заказчыку брак не падсунеш. Інакш як у вочы глядзець.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕЦЕ АДКАЗВАЮЦЬ

Апошні новы аўтобус маладзечанскі аўтапарк №4 купіў у 1990 годзе

## Падбяры мяне, аўтобус!

***Пад такім загалоўкам 27 студзеня быў змешчаны артыкул, дзе гаварылася аб становішчы, у якім апынуліся пасажыры прыгарадных аўтобусаў. У прыватнасці, тыя, якія ездзяць па маршруце Маладзечна-Вілейка. У той час, калі аўтагаспадаркі захлынаюцца ад недахопу сродкаў, вялізная частка выручкі перакачоўвае ў кішэні вадзіцеляў. Выпадак, калі вадзіцель Іван Гнілазуб не хацеў даваць пасажырам білеты, на жаль, не адзіны.***

Наша выступленне было заўважана. Дырэктар аўтобуснага парка №4 **Пётр Мамчыц** даслаў адказ рэдакцыі, дзе высветліў многія аспекты праблемы. Сапраўды, новых аўтобусаў маладзечанцы не бачылі ад 1990 года, калі быў набыты ў апошні раз ЛАЗ-695. За сродкі Міністэрства транспарту. 70% рухомага саставу, які працуе, падлягае спісанню! І ў той самы час аб'ём перавозак пасажыраў у 1997 годзе павялічыўся ў параўнанні з 1996 годам на 2 мільёны 862 тысячы 400 чалавек. У дужках пазначым, што гэтая карціна рэальная настолькі, наколькі сумленна вадзіцелі аўтобусаў "абілечваюць" пасажыраў.

1997 год аўтапарк спрацаваў са стратамі, якія склалі 829 мільёнаў 627 тысяч рублёў.

Сёння на прыгарадных маршрутах на рабочых днях працуе 20 аўтобусаў, на выхадных-- 25.

Цікавымі могуць падацца звесткі аб сярэдняй заработнай плаце вадзіцеляў . За снежань мінулага года яна склала 3 млн. 444 тыс. рублі. У слесараў заробак у апошні месяц мінулага года быў роўны 2 млн. 278 тыс. рублёў. У студзені зарплата вадзіцеляў вырасла і склала 3 млн. 823 тыс. рублёў.

У 1997 годзе датацыі па АП №4 склалі 17,1%.

Кіраўніцтвам парка на бліжэйшы час не намячаецца скарачэння аўтобусаных маршрутаў. У асенне-летні перыяд па выхадных планууецца нават павялічваць колькасць аўтобусаў на найбольш загружаных маршрутах прыгарадных зносін.

Што да вадзіцеля **Івана Гнілазуба**, які, небарака, натрапіў на пільнага пасажыра, то яму аб'яўлена вымова.

"Рэгіянальная газета" і ў далейшым мае намер удзяляць увагу пасажырскім перавозкам у нашым рэгіёне.

*Мікола ГАЙДУК.*



# Слёзы ад дзяржаўнай падтрымкі

***СМАРГОНЬ. 80 сем'яў, у якіх выхоўваюцца дзеці-інваліды звярнуліся па дапамогу да старшыні райвыканкома Мікалая Кавалёва. Ім на жыццё не хапае дзяржаўных грошай.***

Просьба да ўлады мела 12 пунктаў. Меншая частка з іх вырашыцца станоўча. І тая пасля асабістых зваротаў улады да кіраўнікоў арганізацый і ўстаноў. Камбікормавы завод будзе забяспечваць сем'і сваёй прадукцыяй на 8 мільёнаў штомесяц. Ці пры продажы на гэтую суму рабіць скідку. Аграфірма "Вілія" дапаможа назапасіць бульбу.

На просьбу праводзіць масаж дома асабліва цяжкім дзецям галоўны ўрач раёна прапаноўвае варыянты. Ці знізіць нагрузку масажыстаў у паліклініцы, ці навучыць саміх бацькоў гэтай справе. Для тых, хто жыве на першых паверхах шматпавярховак, абсталююць у пад'ездах спускі пад інвалідныя каляскі. Дастаўляць дзяцей на культмасавыя мерапрыемствы будуць спецыяльна выдзеленыя аўтобусы. Бясплатна.

Смаргонь не дзяржава, гальбаныя пытанні самастойна не вырашае. Як ставіцца, напрыклад, да просьбы выдзеліць бясплатную кватэру? Райвыканком падаў заяўку на набыццё 40 інвалідных калясак. Вобласць выдзеліла 12 і, зразумела, патрэбы не забяспечыла.

Маці хворых просяць ствараць рэцэптурны аддзел, каб можна было без праблемаў атрымаць лекі. Заяўку выканаюць. Але хто іх аплаціць? Асабліва, калі лекі замежныя?

Няма скідак на камунальныя паслугі, не ўрэгуляваныя да канца праблемы праезду - шмат чаго ў нас няма. Калі ж дзяржаўная падтрымка не будзе ў здаровых, працаздольных выклікаць усмешку, а ў тых, хто ёю карыстаецца,- слёзы?!

*Васіль САВІЦКІ.*



*Хворае дзіця атрымлівае 400 тысяч пенсіі, яго маці - 800 тысяч. А догляд інваліда І групы з 16-гадовага ўзросту амаль бясплатны - 125 тысяч. 12 сем'яў наогул няпоўныя (без бацькі).*

ФОТА З АРХІВА "РГ"

# Прыватнік "Зеніту" не раўня. І слава богу

***Стаіць на галоўнай плошчы ў Вілейцы -- месцы, адведзеным пад рынак,-- прадпрымальнік і гуляе ў мяч: "Я ведаю трох ворагаў: Цімашоў-- раз, Юдо-- два..." З гэтага жарта пачаў сваё выступленне перад прадпрымальнікамі Вілейкі і раёна старшыня гарвыканкома Пётр Юдо. На жарт не пакрыўдзіліся ні прадпрымальнікі, ні кіраўнік падатковага камітэта ў Вілейцы Міхаіл Цімашоў. Тым больш, што мэрам было заяўлена жаданне і далей шукаць кампрамісы ў адносінах з прадпрымальнікамі.***

Наколькі сур'ёзным для Вілейкі можа быць прадпрымальніцкі рух, гаворыць хаця б тое, што толькі гэта самая плошча Леніна, дарэчы, пад вокнамі гарадскога галавы, змагла змякчыць у 1995 годзе сітуацыю на рынку працы, калі "Зеніт" інтэнсіўна пачаў скарачаць або іншым чынам пазбаўляцца ад працоўных. З 5400 чалавек сёння на "Зеніце" засталося працаваць толькі 2400. І трэба было мець мужнасць Пятру Юдо, каб пайсці на смелае рашэнне-- дазволіць гандаль прыватніку на самым бойкім, але спрэчным з пункту гледжання часткі гараджан месцы. І калі камуністы заявілі свой пратэст у сувязі з гандлем каля помніка Леніну, палаткі ля пастамента "расступіліся". Гэта таксама было кампрамісам.

Сёння плошча дае работу 600- 700 чалавекам. Насычае рынак таварамі. Колькасць зарэгістраваных беспрацоўных скарацілася з 1400 на пачатак 1997 года да 666 чалавек сёлета. Ніхто не скажа, што жыць пасля гэтага ў Вілейцы стала прасцей або лягчэй. Чаго толькі каштуе праблема наркаманіі, якая апанавала горад і якую звязваюць не ў апошнюю чаргу і з беспрацоўем. Але бізнес у Вілейцы яшчэ не знік. Больш таго. Ёсць яскравыя прыклады развіцця сваёй справы. Аб гэтым гаварылі прадпрымальнікі на сходзе.

Заканчэнне на 3-й ст.

НА КОНКУРС "ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА"



Прывітанне! Мяне завуць **Оля**, мне 16 год, па гараскопе - Дзева. Займаюся ў музычнай школе (на віяланчэлі), вучуся ў СШ №7, у дзесятым хім-бія-класе. У будучым мару стаць добрым урачом.

Акрамя ўсяго гэтага, я проста вясёлая і жыццярадасная дзяўчына. Люблю зносіны са звычайнымі людзьмі, мне падабаюцца вясёлыя кампаніі, дзе можна весела і цікава бавіць час.

А ў вашым конкурсе ўзяць удзел мне параіла сяброўка. А раптам пашанцуе?

Я, вядома ж, спадзяюся, што маё фота не застанецца без вашай увагі і з'явіцца на старонках вашай цудоўнай газеты! Пакуль!

## Сексуальнай рэвалюцыі - калектыўнае "не"

***МАЛАДЗЕЧНА. 1 красавіка. Серада. 10 гадзін. Ля ўвахода на калгасны рынак ініцыятыўная група нашай газеты агітавала за здаровы лад жыцця. Быццам бы на мытні (невядома, праўда, якой) стаіць 12 вагонаў з электрастымулятарамі тыпу "Super eregator", "Deep stroker". Гэтыя замежныя штучкі шкодныя для здароўя і нельга іх пускаць у продаж. А калі так, і ты - грамадзянін, праявi свядомасць. Падпішыся, каб тыя не распаўсюджваліся на рэгіёне. Маўляў, санстанцыя знайшла ў стымулятарах 32 шкодныя элементы. А аптэкі, насуперак усяму, заключылі дагаворы на іх рэалізацыю.***

За паўгадзіны група назбірала 80 подпісаў. 50 працэнтаў падпісантаў - людзі састарэлыя. Прывабная жанчына хацела ўпісаць і свае пашпартныя дадзеныя. У выніку расписалася за сябе і за мужа. Падлетак - за сябе і маці. Інвалід - тройчы, бо ў яго ёсць тры дакументы на розныя прозвішчы.

А так распісваліся кожны за сябе. Украінцы-гандляры прыйшлі дэлегацыяй:

- Хутчэй за ўсё, стымулятары трапілі праз Літву. А калі так, то і да нас могуць дайсці.

Стрыжаныя хлопцы ў спартыўных касцюмах спакусіліся на англійскія назвы.

Заканчэнне на 2-й ст.

 



САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-13.*

## Осик, скажи мне правду!

Часта сустракаем былых савецкіх. Эмігравалі ўсе ў розны час, але не шкадуе, натуральна, ніхто. Некаторыя перыядычна настальгуюць, аднак падобнае хутка праходзіць.

Тут сапраўдны кангламерат народаў, звычаяў. Аёва сябруе са Стаўраполлем, гарадамі з Кітая, Японіі, Мексікі, Францыі, хоча наладзіць кантакты з Італіяй. Звычайна шукаюць у пабрацімы горад, падобны, да прыкладу, на Дэ Мойн. Але прамысловасць мусіць быць адрозная, каб наладзіць абмен таварамі.



*Перад фатаграфаваннем Саша доўга падкручваў вусы. Шкада, што на здымку не надта відаць..*

Бывалі і незвычайныя сустрэчы. Пра "беларускі" магазін мы чулі, ехалі туды на сустрэчу з землякамі. А літаральна ў дзвярах пачулі непаўторны адэскаяўрэйскі акцэнт:

- Осик, скажи мне правду. Я уже не знаю, кому верить. Я уже боюсь заказывать товар!

Гамяльчанін Саша Літвак разам з жонкай Светай прыехалі ў Аёву 5 год таму. 2 гады як арандуюць памяшканне пад невялікі магазін, збіраюць грошы на будаўніцтва ўласнага будынка, бо крэдыт узяць цяжкавата.

- Ведаеце,- расказвае ён,- рускія - страшныя зладзеі. Цяпер гаварыў з Нью-Ёркам, прасіў, каб везлі тое, што заказваў. Дакументы прывязуць адны, а груз іншы. Бывае, што і наогул нічога не прывязуць. Дорага бяруць за паслугі. З амерыканцамі можна працаваць. а мяне ж мясцовыя таксама лічаць зладзеем. Хаця самае цікавае, што я ж яўрэй!

Света сумуе тут, бо Сашына радня паціху пераязджае сюды, а яна адна. Тым не менш Літвакі ведаюць сем'яў з пяць, што пераехалі з Мінска.



*Света хаця і са шкадаваннем згадвае знаёмых, сваякоў, але нешчаслівай не выглядае.*

ФОТА АЎТАРА.

Мову абодва ведаюць добра, пра іх нават мясцовы тэлеканал расказваў.

- Адкрыцца нескладана,- лічыць Саша.- Цяжэй вытрымаць канкурэнцыю. Праўда, добра, што хабар тут не дасі, таму барацьба за пакупніка сумленная. "Чаявыя" - у законе, а вось грошы чыноўніку, службовай асобе - выключана.

## Носьбіт мовы

А ў нас усё часцей сустракаем амерыканцаў. Амаль тры гады (з невялікімі перапынкамі) жыве і працуе ў Маладзечне амерыканскі грамадзянін Беры Грын. Пачалося з некалькіх наведванняў горада з грузам гуманітарнай дапамогі. Сёння ж ён каардынуе паступленне дапамогі, што збірае для маладзечанцаў дабрачынная арганізацыя. Жыве ў горадзе і выконвае свае функцыі за ўласныя грошы. На адвечнае пытанне: "Чаму?" адказвае:

- Проста я веру, што людзям неабходна дапамагаць, рабіць іх лепшымі і чысцейшымі. А вашыя людзі мне спадабаліся.

Пасля ўбачанага ў ЗША такія словы дзіўнымі не падаюцца. Нават калі даведваешся, што меў чалавек у сябе дома высокааплачваемую работу, быў добрым менеджэрам; але ўзяў спачатку адпачынак для паездкі ў "экзатычную краіну", а затым наогул свой занятак пакінуў. Дарэчы, і на радзіме яму давялося з роднага Тэхаса пераехаць з кампаніяй у Індыяну.

Дапамога праз яго ідзе, у асноўным, у мясцовую гарбальніцу. Штосьці дастаецца і Мінску (да прыкладу, некаторыя катэтэры, што не выкарыстоўваюцца мясцовымі медыкамі). Асаблівы клопат адчуваюць дзеці: рэабілітацыйны цэнтр, падручнікі, электронныя дапаможнікі, цацкі.

Амерыканцам прасцей: навукова-тэхнічны прагрэс у іх, вядома, з нашым не параўнаць (бо няма з чым параўноўваць), абсталяванне маральна старэе за лічаныя гады і яны могуць яго перадаць "трэцім краінам". Маюць жаданне перадаць нешта ў Беларусь і асобныя грамадзяне.

Знаёмыя Грына працуюць у Эвансвілі з дзецьмі-інвалідамі; спартыўны рыштунак даслалі сваім "калегам" скаўты. Можа, таму і самому Беры падабаецца працаваць з дзецьмі. А тут і настаўніца маладзечанскай СШ №2, якая дапамагала амерыканцу з перакладам, прапанавала пазаймацца з яе школьнікамі: адна справа, калі вучыш мову па падручніку, зусім іншая, калі чуеш "жывога амерыканца".

- Займаюся тым, чым падабаецца,- пасміхаецца Беры.

Ён прывез у школу шмат літаратуры, касеты. Асабліва школьнікі і выкладчыкі ўпадабалі сінхранізатар тэксту - калі чуеш гаворку і адначасова бачыш словы на экране.

Працуе з вучнямі старэйшых класаў. Адзін з галоўных напрамкаў - навучыць дзяцей не баяцца гаварыць з носьбітамі мовы. Жывая гаворка, натуральна, значна складанейшая за школьныя тэксты. Цяпер яго 9-класнікі запрашаюць да сябе ў госці і выступаюць перакладчыкамі ў зносінах з бацькамі.

За свае заняткі грошай ён не мае і не хоча мець. Таму недарэчным для яго выглядала пытанне кіраўніцтва беларускай гімназіі:

- А колькі будуць каштаваць вашыя ўрокі?

Дарэчы, традыцыйна гімназія ўхіл рабіла на нямецкую мову, з Германіяй падтрымліваліся рэгулярныя сувязі. А тут трапілася настаўніца англійскай, якая да сваіх класаў паставілася дбайна:

- Чаму яны з амерыканцам, а мы - не?

Так ён пашырыў выкладанне мовы ў Маладзечне.

А ў СШ №2 прайшлі (язычніцкія, па-сутнасці) святкаванні ўраджаю, канца восені. Называліся яны, праўда, англамоўным выразам, але засталася сутнасць, якая была ў нашых далёкіх продкаў: дзень "усіх святых", а затым ноч пераапранутых.

Беры не плануе наперад, калі паедзе дамоў. Хаця на пытанне, ці вернецца ў Беларусь, адказвае станоўча. А Беларусь для яго мае ўстойлівую асацыяцыю з Маладзечнам.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 25.03 | 1.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 80 | 80 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 265 | 265 |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 76,4 | адсут. |
| Селядзец салёны | 1 кг | 42 | 42,5 |
| Рыс | 1 кг | 23,1 | 23,1 |
| Цукар | 1 кг | 25,8 | 26,1 |
| Грэчка | 1 кг | 26,5 | 26,5 |
| Алей | 1 л | 53 | 54 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 28,5 | 28,5 |
| Маянэз | 250 г | 16 | 14,5 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 65 | 63 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 22 | 21 |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 22 | 22 |
| Лімоны | 1кг | 60,2 | 60,2 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | 28 |
| Масла | 1 кг | 75 | 75 |
| Тварог | 1 кг | 35 | 30 |
| Малако | 1 л | 7 | 9 |
| Бульба | вядро | 70 | 70 |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 30 | 30 |

ВІЛЕЙКА

# Канец таннай смятане

***"Ужо з месяц, як з прылаўкаў знікла смятана ў пакетах вагой 500 грамаў па цане 18 тысяч рублёў. Затое з'явілася ў стаканчыках вагой 230 грамаў па цане 11 тысяч рублёў. Калі ўлічваць, што за апошні месяц малочныя вырабы не даражэлі, дык выходзіць, што лішнія тысячы мы плацім за Карлсана, які намаляваны на гэтым стаканчыку."***

*Ігар КІЦІКАЎ.*

Такі ліст мы атрымалі ад вілейчаніна, нашага пастаяннага аўтара. Па каментарый газета звярнулася да галоўнага інжынера Вілейскага гармалзавода **Пятра Чаўлыткі**.

- Смятана ў поліэтыленавых пакетах сапраўды знікла з прылаўкаў магазінаў. Асноўная прычына - адсутнасць поліэтылену, адцягнуць сродкі на набыццё якога ў цяжкіх эканамічных умовах было б вельмі рызыкоўным. Увогуле,- сказаў Пётр Данілавіч,- большасць малаказаводаў Беларусі перайшла на новую, больш зручную, упакоўку для смятаны. Смятана, якая сёння заліваецца ў стаканчыкі, з 20-працэнтнай тлустасцю (у поліэтыленавых пакетах была 15-працэнтная). Было б неразумным не выкарыстоўваць новыя магутнасці і закупленую ўпакоўку (стаканчыкі). У продаж пастаўляецца таксама смятана на разліў, але вельмі нязначная колькасць. Па-першае, яе продаж вельмі нявыгадны для прадпрыемства, па-другое, па старынцы купляюць гэты прадукт у слоікі зусім няшмат людзей. Усяго ж за дзень Вілейка "з'ядае" каля 800 кілаграмаў смятаны. У зімнія месяцы, калі сувязь з роднымі ў вёсцы становіцца менш рэгулярнай, і ўлетку, калі на стол просіцца больш зеляніны, вытворчасць смятаны павялічваецца. Вілейчане пастаўляюць таксама сваю смятану ў сталіцу.

Гармалзавод не датуецца дзяржавай ніякім чынам. Больш за тое, цэны для яго фіксаваныя дзяржавай, або абмежаваныя 2-працэнтным ростам на месяц. Так што ў гэтых умовах працаваць заводу, мала сказаць, цяжка. І вяртанне да таннай смятаны ў поліэтэленавых пакетах можа адбыцца хіба толькі цудам. У нашым кашальку грошай ад гэтага больш не стане.

*Мікола ГАЙДУК.*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# Як Марыя Іванаўна дэлегата выбірала

***АСТРАВЕЦ.*** *Падвядзенню вынікаў работы прадпрымальніцкіх структур за мінулы год, а таксама выбарам дэлегата на рэспубліканскі з'езд прадпрымальнікаў была прысвечана сустрэча, якая праходзіла ў РДК.*

Яна праводзілася ўпершыню за сем год і, думаецца, даволі яскрава засведчыла тым самым стаўленне мясцовых уладаў да прадпрымальнікаў. Пачатак гэтага схода прызначылі на адзінаццаць гадзін, таму ўсе жадаючыя на яго прыйсці не змаглі - некаторыя палічылі за лепшае гандляваць на рынку, зарабляючы тым самым на жыццё.

Напачатку выступіла намеснік старшыні выканкома Марыя Пяткевіч і расказала пра прадпрымальніцкія структуры і іх дзейнасць, не забыўшыся пры гэтым пра поспехі, што летась дасягнулі дзяржаўныя прадпрыемствы. Прадпрымальнікі распавядалі пра сваю работу. Не былі выключэннем і праблемы, хаця ад таго, што іх узнялі, наўрад ці будуць вырашаныя.

Прынамсі, узгадваліся такія сітуацыі. Прыязджае прадпрымальнік на дзяржаўны завод, каб купіць партыю гарэлкі, а дырэктар заўважае:

- Калі я табе прадам хаця б адну бутэльку, то заўтра мяне на гэтай пасадзе не будзе.

Апагею сход дасягнуў, калі пачалі выбіраць дэлегата на рэспубліканскі з'езд. Прапанаваную кандыдатуру фермера Лабачэўскага не паставілі на галасаванне, бо той адмовіўся. Кандыдатуру дэпутата райсавета Івана Крука, які, па словах некаторых прадпрымальнікаў, дабіваўся будаўніцтва новага рынку, адхіліла Марыя Пяткевіч толькі таму, што той не з'яўляецца прадпрымальнікам. Затое ўсяго толькі кандыдатура прадпрымальніка Анатоля Міхцеева, нягледзячы на тое, што прапаноўваліся яшчэ дзве, была пастаўленая на галасаванне. За яго прагаласавала не больш за 30 чалавек, а прысутнічала не менш 100, і цяпер ён, як мяркуецца, будзе адстойваць інтарэсы мясцовых прадпрымальнікаў. Падобныя выбары лічыць справядлівымі не даводзіцца. Падобна, што ўлады, а не прадпрымальнікі выбралі патрэбнага чалавека на з'езд.

Што ж тычыцца стаўлення да падзеі Марыі Пяткевіч, то пасля схода прадпрымальнік Анатоль Пятровіч зазначыў:

- У мяне на яе паводзіны не знаходзіцца слоў. Яны былі, па меншай меры, некарэктнымі, аказваўся ціск на прысутных, а тое, што яна не паставіла на галасаванне кандыдатуры Крука і яшчэ двух прадпрымальнікаў, - гэта наогул супрацьзаконна.

Падобнай думкі прытрымліваюцца і іншыя прадпрымальнікі.

*Аддзел інфармацыі.*

# ..."Зеніту" не раўня

*Пачатак на 1-й ст.*

З невялікага пачаў сваю справу **Аляксандр Карастылёў**. Сёння яго шматпрофільная вытворчасць дае гароднiну, сотню свіней за год, хлеб і булкі, тарную дошку, будаўнічыя матэрыялы, лекавыя расліны...

І паступленні ў бюджэт ад прадпрымальніцкай дзейнасці сціплымі не назавеш. Толькі на аднаго работніка прыватнага прадпрыемства "Лінда" было пералічана ў бюджэт розных падаткаў 25 мільёнаў. На "Зеніце" гэты паказчык склаў усяго 4 мільёны! Адно толькі прадпрыемства ДМТ забяспечыла работай 85 чалавек. Вось і ўсе размовы аб жуліках і спекулянтах.

Пры гэтым прыватнік знаходзіцца не ў роўным становішчы з дзяржаўнымі прадпрыемствамі. **Аляксей Чарапан**, старшыня кааператыва "Граніт", напрыклад, не аднойчы сутыкаўся з тым, што з ім не хацелі мець справу толькі з-за таго, што ён не прадстаўляе сабой дзяржаву. А што прадукцыя, якую ён прапануе шмат таннейшая і лепшай якасці, гэта для некаторых начальнічкаў-- не аргумент.

Большасць прадпрымальнікаў на сходзе выказвала думкі аб развіцці прыватнага бізнесу і рынкавай эканомікі ўвогуле. Хаця не абышлося і без спробаў перад уладамі папросту выгандляваць сабе больш спрыяльныя ўмовы. Чаму, маўляў, Вілейскі леспрамгас, арганізуючы аўкцыёны, прадае драўніну не сваім бізнесменам, а камусьці з Дзяржынска? Не разумеючы, а можа, і разумеючы, што аўкцыён для таго і праводзіцца, каб прадаць сваю прадукцыю па больш выгаднай цане. Як і той пакрыўджаны прадпрымальнік, які для сваёй прадукцыі-- дзвярэй і вокнаў, ніколі не назначыць цану, ніжэйшую за рэнтабельную.

Прадпрымальніцтва ў свядомасці сярэдняга грамадзяніна сёння не асацыіруецца са спекуляцый. Але гэта не гарантыя, што яму наканаванае беклапотнае існаванне. Толькі шляхі яго дасягнення розныя. Урэшце, выйграе не той, хто будзе трымацца за гаспадарчую мадэль размеркавання рэсурсау па прыкмеце "свой- не свой", а той, хто будзе даказваць, што яго вытворчасць больш эфектыўная, чым дзяржаўная або калгасная, якая толькі па назве ёсць кааператыўная. Дарэчы, тую сотню свіней у год на ферме Аляксандра Карастылёва гадуе ўсяго адзін чалавек. На выхадныя яго замяняе сам Аляксандр са сваёй сям'ёй.

**Мікола ГАЙДУК.**

ЖЫЦЦЁ САБАЧАЕ

# Сытымі ў апошні шлях

**ВІЛЕЙКА.** У раёне гарадской звалкі камунальныя службы пабудавалі вальер для бадзяжных сабак. Зразумела, патрапяць туды не толькі бяздомныя псіны. Хатнюю ж можна выкупіць, калі заплаціць за адлоў і пражыванне (50 тысяч за суткі).

Для "палонных" наладзяць харчаванне - адыходы са сталоўкі. Лічыцца, што такі крок палепшыць правілы ўтрымання чатырохлапых у кватэрах, паскорыць іх рэгістрацыю. Бо летась толькі 20 гараджан атрымалі рэгістрацыйныя жэтоны на сваіх Шарыкаў. А бяздомныя, як вядома, права на жыццё не маюць.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Спекуляцыя па нізкіх цэнах

**ВІЛЕЙКА.** Чатыры жыхаркі Смаргоні ў магазінах закупілі малочных вырабаў (тварагу, смятаны) на 16 мільёнаў рублёў.

А "прадпрымальнік"-вілейчанін - на 11 мільёнаў. Яго затрымалі на выездзе з уласнага двара. Ехаў рэалізоўваць прадукты ў Санкт-Пецярбург.

За першы квартал супрацоўнікамі АБЭЗа ўстаноўлена 8 фактаў спекуляцый прадукцыяй мясцовага гармалзавода.

А вось былы старшыня калгаса "Любань" С., наадварот, прадаваў свініну насельніцтву па "даперабудовачных" цэнах - 15 тысяч за кг. Праўда, усе пакупнікі - асобы падстаўныя. Куды далей ішло калгаснае мяса, высвятляе следства.

*Аддзел інфармацыі.*

